

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "BACKAUSCYNA" ("FATHERLAND")
Responsible Publisher: Wladimir BORTNIK
Printing Office: Buchdruckerei der Apostolischen Visitatur, München 8, Rosenheimer Straße 46a. — Telefon-Nr. 45 81 43
Post Adress: "Backauscyna", München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III
Die Administration der Weißruthenischen Zeitung „BACKAUSCYNA"
München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND" | LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

№ 14 (93) Нядзеля 6 красавіка 1952 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 6

# Маніфэст 72-ух амэрыканцаў

З нагоды 35-годзьдзя лютаўскай рэвалюцыі ў Расеі 72 выдатных амэрыканцаў зьвярнулася 12 сакавіка сёлета з «Маніфэстам да народаў Расеі», які паявіўся ўва ўсей амэрыканскай прэсе й быў на розных мовах перадаваны цераз радыё, перадусім «Голасу Амэрыкі» й «Радыё Вольнай Эўропы».

На першы пагляд здавалася-б, што гэты факт зьяўляецца звычайным прапагандовым ходам у халоднай вайне, прадпрынятым прыватнымі людзьмі, і таму спыняцца над ім няма аніякае патрэбы. Тымчасам аднак значэньне гэтага Маніфэсту вялізанае й абмінуць яго нельга.

Але спачатку пазнаёмімся зь некаторымі, найбольш характэрнымі ўрыўкамі Маніфэсту.

«Якраз перад 35 гадамі вы ськівулі царскае панаваньне — зьвяртаецца 72 амэрыканцаў 'Да народаў Расеі'. У гадавіну гэтае падзеі мы пасылаем вам сваё прывітаньне. Дэмакратычны ўрад, створаны лютаўскай рэвалюцыяй 1917 г., быў творам усіх народаў Расеі і ўсіх яе клясаў, а ня творам групкі камуністычных змоўнікаў, якія пазьней зьнішчылі свабоду Расеі.»

«Мы ведаем, што гэтыя падзеі можна, што да іх значэньня, прыраўняць з нашай рэвалюцыяй з 1778 году; яны былі завяршэньнем доўгавяковага змаганьня за свабоду ... Вы разарвалі ў мінулых стагодзьдзях ланцугі прыгоннага права, заваявалі палітычныя правы, направілі агульныя ўмовы народнага жыцьця, паднесьлі дабрабыт краю, унесьлі шмат чаго цэннага да агульналюдзкай культуры ...»

Далей чытаем: «Першыя дні вашага дэмакратычнага ўраду, падтрыманага людзьмі ўсіх клясаў насельніцтва, забясьпечылі ўсім свабоду слова, друку й сабраньняў; былі вызваленыя палітычныя вязьні; былі скасаваныя рэлігійныя й нацыянальныя абмежаваньні; была скасаваная тайная паліцыя; пачалася падгатаваўчая праца да выбараў Устаноўчага Сабраньня на падставе агульнага выбарнага права; была зьдзейсьненая аўтаномія Фінляндыі, скасаваная сьмяротная кара, вызнаная незалежнасьць Польшчы ...»

«Мы амэрыканцы зьяўляемся гордымі з таго, што Задзіночаныя Штаты былі першай краінай, якая вызнала ваш дэмакратычны ўрад.»

«Мы сяньня ведаем, што так доўга ня будзе міру й бясьпечнасьці, пакуль вы не дасягнеце волі. Тыранія, якая праглынула вашую краіну, загражае таксама й нам. Стаім напярэдадні 3 сусьветнай вайны, у якой могуць загінуць мільёны й якая можа распачацца паза нашаю воляю.»

Маніфэст заканчваецца наступнымі словамі:

«Мы ведаем, таксама, што пакуль не пераможаць тыя дэмакратычныя прынцыпы, якія вас захоплівалі перад 35 гадамі, Задзіночаныя Штаты й іншыя вольныя краіны, а таксама краіны, што знаходзяцца цяпер пад уладай камуністычнай тыраніі, ня змогуць жыць пэўна ў міры й пры забясьпечаньні сваей будучыні.»

«Вось чаму ўсе амэрыканцы працягваюць пры гэтай нагодзе руку прыязьні да народаў Расеі. Мы зьяўляемся як найглыбей перакананымі, што вы, як напасьледак усе народы, якія ўжо раз зазналі дабрадзейства свабоды, не зважаючы на ўсе труднасьці, зноў аднойдзеце шляхі да яе, і тады вызваленая Расея займе сваё месца ў сям'і народаў сьвету, а вольныя народы Расеі ўзноў уключацца ў вялікае заданьне — тварэньня шчасьця й дабрабыту ўсяго людзтва.»

Як было зазначана, гэты Маніфэст падпісала 72 выдатных амэрыканцаў, сярод якіх знаходзяцца на столькі ўплывовыя й адказныя асобы, што зьяўлюцца ведамымі многім з нашых чытачоў. Вось-жа між іншымі, знаходзім тут такія прозьвішчы, як былы амбасадар Фрэнсіс Бідль і Гары А. Буліт, сэнатары У. В. Бульбайг, Ральф Э. Фляндэрс, Гомэр Фэргосон, Ірвінг М. Айвз, Карл Е. Мунт, Гэрбэрт Г. Леман, Маргарэт Чэйз-Сміт, Браен Мэкмагон, старшыні двух наймагутнейшых прафэсыйных саюзаў — **Вільям Грын і Філіп Гувэр**, кіраўнік сацыял-дэмакратычнай партыі Норман Томас, калішні прэзыдэнт ЗША Гэрбэрт Гувэр, сусьветнай славы навуковец др. Райнгольд Нібур, былы амэрыканскі губэрнатар Заходняй Нямеччыны генэрал Люцыюс Клей, былы амбасадар у Маскве, а цяпер прэзыдэнт Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня Народаў Расеі адмірал Элен Кэрк, былы шэф пляну Маршала, а цяпер старшыня фундацыі Форда Гофман, былы шэф палітычнай контрразьведкі ЗША Вільям І. Данован, шэф і собсьнік аднаго з найвялікшых прэсавых канцэрнаў ЗША Гэнры Л. Люс, калішні старшыня Атамнай Камісыі ЗША Давід Е. Лільенталь, былы амэрыканскі губэрнатар Баварыі др. Дж. Г. Шустэр і шмат іншых.

Усе гэтыя людзі рэпрэзэнтуюць сабой усе слаі амэрыканскага грамадзянства й гэтым самым адлюстроўваюць увесь амэрыканскі народ. Іхныя пагляды на праблему падсавецкага Ўсходу, якія яны выказалі ў Маніфэсьце, зьяўляюцца паглядамі й думкамі амэрыканскага грамадзянства наагул.

Вернемся цяпер ізноў да самога Маніфэсту й зьвернем увагу на яго найважнейшыя пункты. Газэта «Нью Ёрк Таймс» пісала з гэтае нагоды: «72 выдатных амэрыканцаў, у тым ліку 11 сэнатараў ЗША, пасылаюць заклік да расейскага народу вярнуцца да прынцыпаў дэмакратычнага часовага ўраду з 1917 году», г. зн. да ўраду Керэнскага, інакш кажучы — да адзінай і непадзельнай расейскай імпэрыі. Да тэй «дэмакратычнай» Расеі, у якой з нацыянальнага гледзішча, гаворачы словамі самога Маніфэсту, толькі была «зьдзейсьненая аўтаномія Фінляндыі» й «прызнана незалежнасьць Польшчы», а для ўсіх іншых паняволеных «народаў Расеі» або «расейскіх народаў» — бо й такую тэрміналёгію спатыкаем у Маніфэсьце — толькі «былі скасаваныя нацыянальныя абмежаваньні». Да тэй «дэмакратычнай» Расеі, — дадамо ад сябе — урад якой большую зьвяртаў увагу на змаганьне із «сэпаратыстымі» й «самостыйнікамі» (тут ужываем сяньняшняй тэрміналёгіі), чымсьці на змаганьне з бальшавізмам.

Гэты маніфэст зьяўляецца апошнім, пры гэтым найбольш выразным і вымоўным доказам, што палітычная апінія Амэрыкі стаіць непахісна на груньце захаваньня непадзельнасьці расейскае імпэрыі. Розныя могуць быць прычыны такога антыдэмакратычнага становішча дэмакратычных амэрыканцаў. Дзеяць тут бясспрэчна прычыны псыхалягічныя, палітычныя, як, прыкладам, зусім правільны пагляд, што нерасейскія народы змагаюцца й будуць змагацца з камунізмам пры ўсякіх абставінах, тады калі расейцы магчыма ў тым выпадку, калі будзе захаваная адзіная й недзялімая, ці можа простае неразуменьне бальшыней амэрыканцаў запраўднага палажэньня на падсавецкім Ўсходзе. Факт астаецца фактам, што амэрыканская канцэпцыя перабудовы Сталінскай імпэрыі — гэта цэласьць і непадзельнасьць Расеі. Такія амэрыканскія палітыкі, як калішні й сяньняшні кадыдат на прэзыдэнта ЗША сэнатар Гарольд Стасэн або кангрэсмэн Кэрстэн — гэта йшчэ толькі першыя піянэры ідэяў дзяржаўнае незалежнасьці паняволеных Расеяю народаў. Гэта яшчэ толькі найбольш прагрэсыўныя адзінкі ў амэрыканскім палітычным сьвеце. І хоць іхная колькасьць будзе бясспрэчна ўсьцяж павялічвацца, то яшчэ сяньня голас іхны ня можа заважыць на шалі выпадкаў.

З усяго вышэйсказанага мы беларусы павінны зрабіць правільныя вывады. Мы павінны станоўча адкінуць шкодныя й зманлівыя ілюзыі, што само зьнішчэньне бальшавізму прынясе нам аўтаматычна дзяржаўную незалежнасьць. Наадварот, за гэтую незалежнасьць прыдзецца весьці цяжкае палітычнае, а можа й збройнае змаганьне.

Мы павінны не палохацца таго, што нашае палітычнае палажэньне ёсьць і будзе вельмі цяжкае. Але таксама мы не павінны забывацца й на тое, што яно ня ёсьць яшчэ безнадзейнае. Наіўным было-б думаць, што дэмакратычная Амэрыка для далейшага захаваньня расейскай турмы народаў будзе прымяняць ня толькі ў значэньні мілітарным, але й палітычным, сілу. Ці гэтая турма астанецца ці не, будзе ў першую чаргу залежыць ад таго, наколькі паняволеныя ею народы выкажаць запраўдную нацыянальную сілу й палітычны розум, каб навет пры няспрыяючай для іх міжнароднай каньюнктуры зьдзейсьніць свае найвышэйшыя нацыянальныя ідэалы.

**Язэп Каранеўскі**

## Прэзыдэнт БНР сп. М. Абрамчык ізноў у Эўропе

**Як даведваемся, у канцы мінулага месяца сп. Прэзыдэнт БНР інж. Мікалай Абрамчык, пасьля чатырохмесячнага побыту ў ЗША, узноў вярнуўся у Эўропу й знаходзіцца цяпер у Парыжы.**

**Сп. Прэз. Абрамчык выяжджаў у ЗША дзеля правядзеньня 6-ай сэсыі Рады БНР, а таксама наведаньня ўсіх беларускіх эміграцыйных асяродзьдзяў ЗША й Канады. Апрача гэтага сп. Прэзыдэнт навязаў цясьнейшыя кантакты з нацыянальна-палітычнымі й дзяржаўніцкімі прадстаўніцтвамі іншых паняволеных народаў.**

### ЗАДАНЬНІ АДМІРАЛА КЭРКА

Амэрыканская газэта «New York Times» пасьвяціла два артыкулы (16 і 17 лютага) адміралу Кэрку, новаму прэзыдэнту Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня Народаў Расеі. Газэта, між іншым, піша:

**«Адным із галоўных заданьняў адмірала Кэрка — прыцягнуць да супольнай дзейнасьці прадстаўнікоў украінцаў, беларусаў, каўкасцаў і другіх нацыянальнасьцяў. Прэсьціж адмірала Кэрка можа пераканаць гэтыя колы, што Амэрыканскі Камітэт не паддзержывае вялікарасейскіх інтарэсаў на шкоду другіх народаў, у чым яго абвінавачвалі дагэтуль».**

# Што будзе далей у Карэі

Спачатку некалькі лічбовых дадзеных. Вось-жа Карэйская вайна цягнецца ўжо 22 месяцы, а перагаворы аб пераміры — 9 месяцаў. Страты амэрыканскіх войскаў, ня ўлічваючы збройных адзінак іншых дзяржаваў Задзіночаных Нацыяў, выносілі да 8 сакавіка сёлета 106.458 забітымі, раненымі й прапаўшымі бязь вестак.

Ня гледзячы на тое, што мірныя перагаворы цягнуцца такі доўгі час, няма надзеі, што яны ўкаранююцца пасьпехам. Наадварот, усе сымптомы гавораць за тым, што вайна будзе прадаўжацца; пры чым ёсьць многа дадзеных на тое, што яна хутка можа пашырыцца на ўвесь паўдзенна-ўсходні азыяцкі кантынэнт. Апошнім часам актыўнасьць камуністычных войскаў, якім дастаўляецца што раз болей аружжа й найбольш мадэрнага тыпу, усьцяж павялічваецца.

Да ўсяго гэтага трэба дадаць яшчэ адзін новы факт. Пайменна, камуністыя ў паўночнай Карэі, Пэкіне й Маскве павялі апошнім часам нязвычайна ажыўленую й у тоне сваім нахабную кампанію, абвінавачваючы збройныя амэрыканскія сілы ў тым, што яны распачалі на тэрыторыі паўночнай Карэі й у Кітаі бактэрыялягічную вайну. Камуністычная прапаганда аж захлынаецца, цьвердзячы, што амэрыканскія самалёты рассыпаюць на ўспомненыя тэрыторыі розныя мухі й іншыя кузюлькі, заражаныя сьмерцяноснымі бактэрыямі.

Што камуністыя ня думаюць імкнуцца да спыненьня ваенных дзеяньняў, сьветчыць яшчэ й тое, што апошнім часам актыўнасьць камуністых значна павялічылася й на іншых адрэзках далёкаўсходняга фронту. Гэта заўважваецца ў першую чаргу ў Індакітаі, дзе камуністычныя паўстанцы пад кіраўніцтвам Го-Чы-Міна павялі вялікую афэнзыву супраць французаў і дасягнулі не малых усьпехаў.

Заходні сьвет, а перадусім Амэрыка, якая нясе галоўны цяжар у Карэйскай вайне, пачынае застанаўляцца над пытаньнем, што-ж рабіць далей? Такое палажэньне, якое становіцца для Амэрыкі што раз большым цяжарам, ня можа трываць бесканечна. Староньнікі радыкальнага разьвязаньня, ідучы за плянамі Мэк Артура, дамагаюцца станоўчага дзеяньня. Яны высказваюцца за распачацьцем морскай і лётніцкай блякады Кітая, каб змусіць такім чынам пэкінскі ўрад заключыць перамір'е. Праціўнікі такой блякады даказваюць, што можа яна толькі пагоршыць сытуацыю альянтаў і навет давесьці да выбуху сусьветнай вайны.

Староньнікі блякады ўважаюць, што яна паўстрымае даставы заграгічных тавараў у кітайскія парты й спараліжуе прыбярэжнае мораплаваньне, якое давозіць галоўны прадукт харчаваньня кітайцаў — рыж і іншыя неабходныя прадукты. Марская блякада замкне савецкім караблём доступ да кітайскіх партоў, паўстрымае рух савецкіх караблёў з Владывастоку ў Дайрэн і Порт Артур — важных савецкіх базаў у паўдзённай Манджурыі.

Ськідваньне з самалётаў мінаў у рэкі й каналы спараліжуе нутраны водны транспарт, які мае вялікае значэньне ў сувязі зь вельмі рэдкай чыгуначнай сеткай. Але найбольшы эфэкт будзе мець бамбардаваньне рэдкіх у Кітаі чыгуначных ліній, бо гэта спараліжуе наземны транспарт і выкліча голад. Тады сярод кітайскіх масаў павялічыцца нянавісьць да камуністых, якіх будуць уважаць за вінаватых у канфлікце з ЗША. З другога боку Савецкі Саюз будзе тады змушаны аказваць Кітаю большую дапамогу, што прывядзе да большага абцяжаньня савецкай гаспадаркі й перагружаньня сібірскай чыгункі. Кітайскае лётніцтва будзе змушанае расьцярушыцца па ўсім Кітаі дзеля самаабароны, а таму пакіне манджурскія базы, на якіх яно цяпер сканцэнтраванае. А гэта ў канчальным выніку прывядзе да паслабленьня націску кітайскага лётніцтва на Карэю.

У далейшым, прыхільнікі блякады высказваюцца за дазвол для Чан-Кай-Шэка распачаць ваенныя дзеяньні на кітайскім кантынэнце супраць камуністых, даючы яму пры гэтым адпаведную помач.

Праціўнікі-ж блякады цьвердзяць, што бамбардаваньне кітайскіх чыгуначных ліній, якія слаба разбудаваныя й рэдка раськінутыя на вялізарнай тэрыторыі, не аплаціцца. Марская блякада й бамбардаваньне могуць якраз мець адваротны вынік, пайменна той, што народ згуртуецца вакол Мао-Тсэ-Тунга й будзе бачыць у ім абароньніка супраць чужога наезду. У выніку бамбардаваньня гарадоў пацерпіць кітайскае насельніцтва, сярод якога ёсьць многа праціўнікаў камунізму. Гаспадарскія санкцыі ўжо зьменшылі давоз заграгічных тавараў, а забарона экспарту ваеннага матарыялу ў Кітай, уведзеная на аснове пастановы Задзіночаных Нацыяў, і так выконваецца ў 96%. ЗША пры бамбардаваньні Кітаю будуць траціць свой лётніцкі матарыял, тады, калі савецкае лётніцтва астанецца ненарушаным. Апрача гэтага бамбардаваньне Кітаю можа прывесьці да акцыі рэванжу: кітайцы пачнуць бамбардаваць Японію, дзе на малых прасторах зьяўляюцца сканцэнтраваныя вялікія прамысловыя аб'екты, а таксама можа выклікаць трэйцюю сусьветную вайну, да якой ЗША не зьяўляюцца яшчэ дастаткова прыгатаванымі.

Вось такія два супярэчныя пляны існуюць сярод амэрыканцаў у дачыненьні да Кітаю. Які зь іх пераважыць, варажыць сяньня цяжка. У кажным выпадку трэба адцеміць, што колькасьць прыхільнікаў блякады ўсьцяж павялічваецца.

(с. т.)

## *Стары мэтад*

Пераглядаючы апошнія нумары «Голасу Народу», органу СБОНР, мімаволі устае перад вачыма цяжкая зьява з недалёкага яшчэ мінулага, калі нас грэла сонца сталінскай канстытуцыі. Гэныя «цёплыя» праменьні, падобна як веснавыя сонечныя пабуджаюць да каханьня і за гэтым да пісаньня лістоў да свае каханае, дык вось гэныя сталінскія праменьні выклікалі «пажаданьне» пісаць лісты у савецкую прэсу. Пачынаючы ад цэнтральных газэтаў «Праўны» ды «Ізьвестіяў» цераз «нашую рэспубліканскую » «Зьвязду», абласныя ды канчаючы на раённых, мы знаходзілі шмат лістоў ад чытачоў. Адны дзякавалі «вялікаму, геніяльнаму», другія падымалі пад неба заслугі камуністычнай партыі, трэйція пісалі з калхозаў і «захопліваліся» гэтай ідэальнай сыстэмай, якая «падняла» Савецкую дзяржаву на найвышэйшы матэр'яльны узровен, трэція абяцалі выканаць 200% нормы на гадаўшчыну рэвалюцыі, ды зноў дзякавалі, зноў хвалілі і так аж да прытарнасьці.

Ды хто-ж з нас у гэта верыў, хто браў гэта у сур'ёз. Я перакананы, што навет адказныя партыйныя работнікі у ціхамолку усьміхаліся.

Запытаем навошта гэта было патрэбна? Адказ просты. Амэрыканскаму ураду зусім няма патрэбы зьбіраць такія лісты і іх публікаваць у прэсе, бо кожны ведае, што у іх дабрабыт. Наадварот вы знойдзеце лісты у газэтах крытыкуючыя актуальны стан рэчаў і дамагаючыяся палепшаньня. Кожны амэрыканец ведае, што іхні прэзыдэнт, ёсьць такім самым сьмяротнікам, як і кожны іншы. Ня будзе яго, выбяруць другога. Зноў няма лішняй патрэбы падкрэсьліваць ягоную веліч лістамі ад чытачоў.

У якіх-жа выпадках гэта патрэбна? А вось проста тагды, калі прыходзіць неабходнасьць маніць, калі трэба затаіць, схаваць запраўднасьць. Трэба прыбегчы да такіх спосабаў, каб часамі самаго сябе пераканаць, што правельна думае. Гэта уваходзіць у налог. Чалавек сам не заўважае як уцягваецца у гэны наяўны спосаб «вочаўуціпрацельства».

Што хоча даказаць «Голас Народа» публікуючы падобныя лісты толькі іншага зьместу ня толькі ад расейцаў, але і беларусаў, украінцаў, татараў і іншых.

Хто возьме у сур'ёз ліст нейкага беларуса зь Бэльгіі, які піша ад імя 20 іншых беларусаў і пры тым зазначае, што ён ніколі ні чуў аб самастойнасьці Беларусі і таму заклікае падтрымаць ідэю СОНР, за якую так змагаецца «Голос Народа». На месцы паважанага рэдактара, калі ён сур'ёзна падыходзіць да справы, трэба было паясьніць таму беларусу, калі Беларусь была незалежнай Дзяржавай і чаму гэтую незалежнасьць страціла.

Бо калі ідэя ягоная правільная, дык правільнае разьясьненьне фактаў ніколі ёй не пашкодзіць. Але вось у гэтым і справа. І мы беларусы за аб'еднаньне сілаў у змаганьні супраць бальшавізму і мы за тое, каб усе чэсныя антыбальшавікі сталі плячо у плячо і сілай адказалі на гвалт чынены народам паняволеным. Але у нас гэта шчырае жаданьне і таму мы не маем патрэбы яго прымацоўваць лістамі так як нашыя імкненьні да рэстаўрацыі Беларускай Дзяржавы зьяўляюцца самазразумелым зьявішчам і не патрабуе лістоў ад чытачоў. Але. Вось гэтае але. Будучыя суадносіны між паасобнымі народамі павінны быць пабудованы на іншай базе чымся гэта зрабіў Сталін. Поўная роўнасьць. Пашанаваньне народнай Волі, аб якой так шмат гаворыцца, але дрэнна інтэрпрэтуецца, кожнага народу, а не так, як сяньня расейскія партыі з пад знаку пакойнага СОНР-у шануюць народную волю, калі яна адказвае іхнім імпэрыялістычным пасяганьням, але калі Беларускі Народ заявіў у 1918 г., што хоча быць поўнасьцю незалежным, дык гэта неважна, у даўнасьць зайшло.

Мае даражэнькія, Народная Воля ніколі не заходзіць у даўнасьць. Будуючы новы гмах мы не маем права будаваць дрэнных фундамэнтаў. Мы не маем права таптаць раз выказанай волі народу. Плянуючы будучыя суадносіны паміж нашымі народамі выйдзем якраз з асновы паложанай народнай воляй. Няма чаго баяцца, калі вы перакананы, што ця-

(Заканчэньне на 3 балоне)

# Ад сіняга неба да шэрай зямлі

## Трыццацілетні творчы шлях Натальлі Арсеньневай

(Заканчэньне)

Вось гэтыя ўсе фармальныя асаблівасьці нашай навейшай паэзыі паяўляюцца ў большай ці меншай меры і ў «Жоўтай восені» Арсеньневай. Адчуваецца, што перад пясьняркаю адкрываюцца новыя, нязнаныя ёй раней гарызонты вершавой гармоніі і яна яе тарнуе з захапленьнем нованавернутай. Трэба адзначыць, што ў «Жоўтай восені» і з гледзішча беларускай мовы бачны значны рост. Мова вершаў цяпер куды багацейшая, а таксама й куды чысьцейшая, як раней. У першым зборніку-ж яшчэ адчувалася змаганьне пісьменьніцы з чужымі моўнымі ўплывамі, асабліва расейскімі налётамі з гадоў ваеннага бежанства ў Расеі і расейскай школы. Цяпер лішні барбарызм — вялікая рэдкасьць. Памаглі ў працы над сваёй моваю і сталыя штогоднія летнія прыезды з Польшчы ў Валожынскія Доры.

Вось у выніку паказанай раней фармальнай «рэвалюцыі» гадоў 1936-37 паэтка значна ўзрасла, скрэпла, «змужнела» у сваей творчасьці. Ды ня гледзячы і на гэта, пясьнярка ўсё-ж наракае ў сваіх вершах і ўспамінах, што і цяпер ей нехапае слоў, каб высказаць усю тую красу ды гармонію, якая расхінаецца перад чулаю паэтычнаю фантазыяй.

На гэта астаецца адна надзея, што ўсё-ж некалі — мо' аж на схоне жыцьця — прыйдзе аднак той дзень, калі яна патрапіць у словах перадаць увесь чар таго сьвету, які сяньня наўхопна лунае перад узбуджанаю фантазыяй:

Але прыйдзе мой дзень
і знайду я патрэбныя словы,
тыя словы, якія цяпер
не пачую ніколі й нідзе.
Буду ўмеці чмялямі гусьці
ў раззалочаным цьвеце ліповым
і шаўковай шасьцець асакой
на зялёнай, бліскучай вадзе.
Зашумяць, запяюць у акордзе
зялёныя хвалі калосься,
пахінуцца мядзянай сьцяною
вяршаліны вечныя дрэў.
Туманамі заплача над жоўтымі
межамі восень. —
Лебядзінаю песьняю людзі
архысьцяць мой сьпеў!
(«Лебядзіная песьня»)

### ЗАЧАРАВАНЫ КУТ КРАСЫ

Дзеля высокіх мастацкіх якасьцяў — дасканальнай формы з музыкальным багацьцем і чарам малярскай вобразнасьці — вершы Арсеньневай чыталіся ахвотна ў Заходняй Беларусі ўсімі тымі, хто любіць паэзыю і красу. Але пасьля прачытаньня ўжо некалькі беззаганных вершаў з адной і той-жа тэматыкай — хараство прыроды, настроі і абразы восені — у чытачоў паўставала часта і некаторае зьдзіўленьне, недаразумленьне.

У тым ўсё вастрэйшым змаганьні за нацыянальнае быць ці ня быць з наступаючым польскім шавінізмам прынялося агульна як правіла вымаганьне, каб і пісьменьнік сваю творчасьць уключаў у гэтае змаганьне, станавіўся сам на фронт актыўнай барадзьбы.

У «Жоўтай-жа восені» чытач тымчасам знайходзіў быццам спакойную, зацішную галярэю цудоўных настраёвых пэйзажаў, дзе нішто, ніякі галас навакольных спраў і падзеяў ня муціў узвышанай маестатычнай цішыні.

Выглядала, быццам пясьнярка зачынілася ў свой собскі пясьнярскі казачны сьвет, свой «зачараваны кут», ды ня той ужо з «Пад сінім небам» кут лягендаў з лясунамі і балотніцамі, а зачараваны кут хараства, «чыстай красы», гаворачы словамі Навіны. Гэты кут, гэтая сьвятыня красы была узьведзеная і ейнае існаваньне абаснованае словамі Багдановічавага «Апокрыфу»: няма красы бяз пажытку, бо сама краса і ёсьць той пажытак дзеля душы.

Ужо ў «Пад сінім небам», у ўводным да зборніка вершы, пясьнярка заклікала:

Ад няпрыветных песьняў гора,
Ад смуткаў шэрае зямлі,
У неба сінь, у неба мора
Пагляд прыстаўшы падымі.
Пад сінім небам няма распачы
Глухой, бязьмежнай, што гнець усё,
Пад сінім небам усё іначай,
Здаецца дзіўным, як сон жыцьцё...

У «Жоўтай восені» гэты адыход «пад неба сінь» ад «смуткаў шэрае зямлі» кансэквэнтна праведзены і завершаны. Пясьнярка чуецца быццам вэсталка у паганскай сьвятыні красы, дзе шумяць сымфоніі хварбаў і гукаў, сонечных заходаў і усходаў, туманных месячных начаў, дзе з віхрамі на ветры носяцца пад небам лісты на «асеньніх фэстывалях».

Не ў царкоўцы малітвай, сьвятою вадой,
ахрысьціў мяне нехта ў зялёнай дуброве.
Як паганін я пушчы паю залатой,
разумею палёў васільковых размовы.

Тымчасам і на далёкае ад беларускай зямлі польскае Памор'е даходзіць хоць позны і слабы, але тым ня менш балючы водгалас тамашняга жыцьця і падзеяў. Існуе нейкі кантакт і з малым, замкнутым у сабе беларускім літаратурным сьветам Заходняй Беларусі («літаратурным мікрокосмосам», як назваў тады яго адзін польскі літаратурны крытык). Там пяюць на іншы лад і ноту маладыя пясьняры. Пра гэта чуе пясьнярка, разумее розьніцу і песьняром Заходняй Беларусі прысьвячае свой вельмі цікавы, праграмны на тую пору верш «Маладым паэтам»:

Вам дадзелі пакора, цярплівасьць і Бог,
як жабрак, вы па шчасьце не цягнеце
жмені.
Вершы вашыя пугамі б'юць па людзёх,
агнявымі маланкамі паляць сумленьні.

Я-б хацела гарэць і змагацца як вы,
разам з вамі каваці чаканае раньне.
Але дні мае іншыя маюць правы:
Сыпкім золатам ліпаў маняць і цыганяць.

Мае дні над аржоньнем цьвітуць туманом
і плывуць серабраным у даль павучыньнем,
і зьвіняць алавяным асеньнім дажджом,
і ў лясох верасамі мядзянымі стынуць.

Нібы жоўтая восень, я стаю над жыцьцём
і гляджу на яго, хоць наўкола — змаганьне.
Мае вершы над сонным балотам трысьцё,
мгла сівая асеньняга раньня.

На гэтыя радкі пясьняркі адзываюцца сваімі прывітальнымі, сяброўскімі вершамі Машара і Танк, у якіх побач выражанага прызнаньня высокай красы і майстэрства, чуецца і некаторы сяброўскі дакор з прычыны «розных дарог». Гэтыя пясьнярскія пярэзвы хоць і былі немалым падбадзёрываючым стымулам для далейшай творчасьці, але аднак не павярнулі паэткі да іншай тэматыкі, бліжэйшай да балючых штодзенных пытаньняў беларускага народу Заходняй Беларусі. Паэтка і надалей астаецца ў сваім паэтычным зачараваным царстве красы і гармоніі, прыгожым як казка з «Тысячы і адной начы», як нерэальны сон.

### ПАВАРОТ ДА ШЭРАЕ ЗЯМЛІ

Прабуджэньне з гэтага сну надыходзіць хутка і яно значна розьнілася ад прабуджэньня казачнай зачараванай князёўны.

Не прайшло і сямі месяцаў ад трыумфальнага ««вызваленьня братоў Заходняй Беларусі». як адной раньняй раніцай у дзьверы памешканьня пясьняркі ў Вялейцы, дзе яна тады жыла з сваімі сынамі, рэзка пастукалі і на парозе паявіліся энкавудыстыя з вінтоўкамі «на перавес». Пасьля грунтоўнага пeратрусу рэчаў саджаюць ўсіх на грузавую машыну, вязуць на станцыю, ладуюць на таварны цягнік разам з тысячамі іншых дэпартаваных жанчын і дзяцей, — і пачынаецца доўгае падарожжа у ведамых умовах на прызначанае месца ссылкі — Казахстан.

Цэлы доўгі год свайго жыцьця давялося мадзець у казахстанскай ссылцы. Зразумела, не да вершаў там было. Летам пухлі рукі ды ногі ад цяжкой катаржнай працы: трэба было капаць ды мясіць гліну, рабіць цэглу — казахстанскі «саман». Доўгімі зімовымі начамі бяз сьвечкі, бяз газы, бяз нашай лучыны нават, бо ў Казахстане няма дроваў, крэплі рукі ды чэлясы ад холаду,данімаў голад.

На шчасьце, дзеля нейкіх сваіх мяркаваньняў, пасьля году ссылкі, паэтцы НКВД дазваляе вярнуцца разам з сынамі ў сваю Валожыншчыну. Гэты факт захаваў для нас і для беларускай літаратуры пісьменьніцу, бо ўжо за некалькі месяцаў пачынаецца нямецка-савецкая вайна.

З лязгатам ды гулам танкаў ды машынаў праз землі Беларусі струменяць на ўсход нямецкія арміі Гітлера. У спаленым ды разьбітым Менску пачынае паволі гуртавацца жменька актыву і беларускай інтэлігенцыі, каб разглянуцца сярод руінаў, што тут можна ўратаваць, што можна зрабіць для сталічнага места, для Беларусі. Адна з першых між імі — Натальля Арсеньнева.

Умовы жыцьця, а тымбольш працы, вельмі неспрыяючыя. Ды ўсёжтакі сёетое можна пачынаць. І хутка паяўляюцца першыя новыя вершы пясьняркі. Самы першы з іх верш «Паўшым» (верасень 1941 г.) аддае нам настроі і перажываньні з ваеннага пабоішча.

Гэтым вось вершам пачынаецца новы, зусім новы этап літаратурнай дзейнасьці Арсеньневай. Сяньня, з некаторай ужо пэрспэктывы, можна сказаць, што ўся літаратурная творчасьць пісьменьніцы перасечаная брутальнаю цэнзураю казахстанскай ссылкі НКВД на дзьве, значна розныя ад сябе, палавіцы. Падобна да вялікага пераломy ў галіне фармальнай у 1936-37 гадох, цяпер назіраем другі, ня менш важны, пералом у тэматыцы паэтычнай творчасьці.

За гады новай ды плоднай творчасьці паяўляецца новы зборнік «Сягоньня» (Менск 1944). Паварот да паэзыі пасьля гадавога прымусовага «гасьцяваньня» ў НКВД на ссылцы ды ў нязвычайна суворыя дні нямецкай акупацыі ў Беларусі ня прыходзіць бяз хістаньняў ды нутранога змаганьня над цяжкім пытаньнем: пісаць ці не? А калі так, дык як тады пісаць? Адказ на гэта ў тую пару ня быў і такі просты.

Хаця фронт вайны на даўжэйшы час і перасоўваецца на ўсходнія ўскраіны Беларусі, але змаганьне на беларускіх землях не спыняецца і надалей. Беларусь цяпер фактычна знайходзіцца пад падвойнаю камбінаванаю акупацыяй і мае дзьве ўлады — ўладу дня і ўладу ночы. Ад безагляднага змаганьня гэтых дзьвёх сілаў найбольш цярпяць нявінныя людзі, беларуская вёска.

Вяртацца такой парой да папярэдняй тэматыкі ў сваю спакойную галярэю пышных пэйзажаў бацькаўшчыны — за рэзкі, за балючы дысананс з акружаючымі падзеямі, з крывавым «сягоньня»:

Не замалюеш лёсаў сьвету
Цяпер вішнёвай пеннай беляй,
Жыцьцё — зусім не акварэльля
І ў час вайны не да санэтаў,
Не да мадоннаў Рафаэля.

З другой стараны што вартыя вершы, гэтыя марныя вершы наагул у пару, калі свой сьпеў зьнішчэньня вядуць гарматы ды свой шалёны фэстываль на беларускай зямлі спраўляе ўжо ня восень, а сьмерць?

Пажарышчаў дзікіх мой верш
І так не згасіць,
Ня змые з душ людзкіх
Пурпуравай крыві.

У такія апокаліптычныя дні пясьнярцы выглядае часам нават, што «паэта, гэта міт камічна-недарэчны».

Пасьля даўжэйшых хістаньняў і нутранай барацьбы ў пясьняркі паўстае

(Заканчэньне на 4 балоне)

# Да Беларусаў сьвету

**25-га Сакавіка ёсьць Беларускім Нацыянальным Сьвятам. Гэта значыць, што ўсе беларусы бяз розьніцы рэлігійных ці палітычных перакананьняў у гэты Вялікі Дзяржаўны Дзень — усе душою й сэрцам тварэце адну супольнасьць і зьвярніцеся з чужыны сваімі імкненьнямі й пачуцьцямі да Бацькаўшчыны Беларусі!**

**Да часу вольных выбараў на беларускай зямлі мы першыя прадстаўнікі Беларускай Народнай Рэспублікі ўважаем, што найвышэйшым прадстаўніком БНР зьяўляецца сп. інж. Мікола Абрамчык. Усе вайсковыя й цывільныя беларускія ўстановы на сьвеце павінны даць Яму падтрымку й дапамогу.**

**Чыкаго, 24 сакавіка 1952 г.**

**Падпісалі:**

**(—) Язэп Варонка**
**былы Прэм'ер-Міністар БНР**
**(—) Янка Чарапук-Змагар**
**былы Міністар**
**Надзвычайных Справаў БНР**

# Стары мэтад

(Заканчэньне)

пер гэная воля зьмянілася, або прынамсі сабе і другім гэта хочаце угаварыць, дык гэта будучыня пакажа. Нашая дзяржава будзе дэмакратычнай і ейны сойм гэта вось зноў народная воля і калі гэны сойм выбраны беларускімі грамадзянамі вырашыць што для беларускага народу выгадна сфэдэравацца з кітайцамі, сфэдэруемся; вырашыць, што выгадней з расейцамі, сфэдэруемся, бо трэба шанаваць народную волю. Мы-ж называем сябе дэмакратамі і вы здаецца таксама. Дык будзем кансэквэнтнымі. Шануйма Волю Народу і прыймайма як праўную — апошнюю. Аб тым што кангрэс у 1918 г. быў праўным і на шырокіх дэмакратычных асновах, ведама кажнаму інтэлігентнаму расейскаму палітыку і ніводзін шануючы сябе расеяц не запярэчыць адкрыта гэтай праўдзе.

Дык вось, паважаныя рэдактары «Голасу Народу» надарэмныя вашыя натугі. Лістамі можаце замыліць вочы таму, хто вырас на захадзе, але нас ведаючых савецкую рачаіснасьць такімі мэтадамі не пераканаеце. Тое, што сярод беларусаў ёсьць староннікі фэдэрацыі з Расеяй ня ёсьць тайніцай, як ня ёсьць тайніцай што частка бэльгійцаў валёнскага паходжаньня хоча прылучыцца да Францыі. Толькі яны у меншасьці і з голасам меншасьці ў дадатку прыгнятаючай меншасьці ніхто ня будзе лічыцца. Таму мая шчырая вам рада: імкнецеся дагаварыцца з большасьцю, а меншасьць дойдзе сама.

Мы, гэтая большасьць беларускіх патрыётаў і мы знойдзем шлях паразуменьня, толькі перастаньце быць рамантыкамі, гляньце рэальна на сучаснасьць і подыходзьце да праблемы тварэньня супольных фронтаў без перастарэлага уяўленьня аб мэсыяністычнай ролі расейскага народу сярод славянскіх народаў. Будзьце звычайнымі сьмяротнымі, як і мы зьяўляемся. Любеце сваё, шануйце чужое, а тагды чужыя ушануюць і вас.

**Сымон Турцоў**

Глядзіць і дзівіцца нямала.
— Каты напэўна, — кажа маці, —
Бо гэтак бегаюць па хаце,
Калі разыйдуцца часамі! —
Алесь падзячан добрай маме,
Бо маці ў тон яму трапляе
І на катоў віну ўскладае.
І бацька ўстаў на гэту справу
Пабачыць дзіўную праяву.
«Ўсё будзе добра, калі тата
Ня надта возьмецца заўзята,» —
Алесь пад коўдрай разважае,
І страх мацней яго шугае.
Да кніжак тут усе зышліся,
І разважаньні пачаліся.
«Начаткі» доўга разглядалі,
Як іх «каты» пашматавалі.
Алесь за печчу весялее,
Але падняцца ён ня сьмее,
Каб там чаго не наплясьці,
На сьлед старэйшых не ўзьвясьці...
— Не: трэба ўстаць, устаць канечна.
Бо так ляжаць, брат небясьпечна! —
Яго аж коле пад лапаткі.
Ўстае, глядзіць ён на «начаткі».
Глядзіць ды ў сьлёзы! як заплача!
«Ах, ты халерына кацяча!»
Алесь прыйшоў у гнеў, у дзікі,
І ў вабурэньне, жаль вялікі,
Катоў ён бедных б'е, ганяе,
За хіб у сені выкідае,
Як-бы яму тыя «начаткі»
Мілей і бацькі, мілей маткі.
— А гэта Каіну ня шкодзіць:
На што ён Бога ў зман уводзіць?
Няхай братоў не забівае! —
«Начаткі» дзядзька разглядае,
Ківае хітра на Алеся: —
Няма ні Сіма, брат, ні Хама,
Падралі ў дрэбезгі Адама,
А Эва дзесь сядзіць на стрэсе,
Нідзе ня знойдзеш Салямона,
Кот на хвасьце панёс Самсона.
Тут, брат, Ісая і Агей,
Прарок Ільля і Ялісей.
Пастаў цяпер ты Богу сьвечку,
За цэп бярыся, ды за грэчку,
«Начаткі-ж» сунь ідзі пад стрэху! —
І аж заходзіцца ад сьмеху.
— А каб яны павыдыхалі! —
Чаму задачніка ня рвалі? —
Сказаў Уладзя ў засмучэньні: —
Дае-ж такія Бог здарэньні,
Але ня мне яны трапляюць,
Мяне заўсёды абмінаюць. —
Тут навет бацька ня стрымаўся
І нечакана засьмяяўся.
Алесь пачуў — мінула ліха!
І сам сябе ён хваліць ціха,
І так на сэрцы праясьнілась,
Як-бы гара з плячэй скацілась.
І думаў ён і пацяшаўся,
Што ўжо з законам паквітаўся,
І цэлы дзень ён быў вясёлы,
Як-бы нясьлі яго анёлы.
Ды памыліўся ён бязь меры:
Прыходзіць бацька па вячэры,
Алеся з запечка ён кліча
Ды ў нос «начаткі» яму тыча!
— Глядзі-ж ты іх цяпер, як вока:
Папруга ўжо ня так далёка;
Калі каты іх зноў парвуць,
То пухіры тут паўстаюць!
І тое месца сына-блазна
Айцец паказвае выразна.
Алесь, усмутку джургануўшысь,
Пашыўся ў запечак, сагнуўшысь.
І доўга ён заснуць ня можа:
Зноў Лот, Абрам... Мой моцны Божа!
Ў ваччу «начаткі» мітусяцца,
Ад іх ня можна адвязацца;
Зноў тая самая бядота,
Зноў сьлёзы, крыўда і згрызота.
Адно Алеся суцяшала —
І Кастуся бяда спаткала:
Кастусь на «веруі» сеў макам, —
Абодвым кепска, небаракам!
І кажа раз Алесік брату:
— Закінем кнігі ў сьнег за хату —
Ты «верую», а я «начаткі»,
І пойдуць іншыя парадкі.
— А будуць біць? — То што? паплачам,
Затое-ж потым мы паскачам!
— А тата кніжак зноў дастане?
— Ну й што? і тым дамо мы рады,
А там падыйдуць і Каляды,
А там, дасьць Бог, вясна настане...
Эх, брат: які ты баязьлівы!
Ня бойся Костусь: будзем жывы!
Чаго баяцца? нічагутка!
Закінем іх у сьнег ціхутка.
А ты маўчок! ні шэп! ні слова,
І ўсё, брат, пойдзе адмыслова.
— Не, брат Алеська: не рабі ты,
Бо тата наш такі сярдзіты!
— Дык ты ня хочаш? — Не: баюся!
— Адзін і я, брат, адступлюся, —
Сказаў Алесь і засмуціўся
І ў свае думкі углыбіўся.
Па скорым часе ранічкою
Алесь у кепскім быў настроі:
Хадзіў, бурчэў, ня змоўчваў маме,
Ўсё дагары вярнуў нагамі.
— Бадай яны былі згарэлі!
І дзе чатры іх тут падзелі?...
— Чаго ты шворышся, мармотка? —
Ў пытаньні маткі злосьці нотка
Зусім Алеся угнявіла.
Зірнуў на матку ён няміла.
— Няма «начатак»! — Зноў «начаткі»? —
Калі ўжо будуць ім канчаткі?
Ён ператрос і вугалочкі,
Як ёсьць, аблазіў і куточкі;
Глядзеў за бэльку і ў пячуру,
Падняў такую шуру-буру,
Што хоць ты з хаты выбірайся.
І тых «начатак» адчурайся.
Алесь раськіс і ня ў гуморы.
— Мо' іх забраў Марцін з каморы?
(Марцін нядаўначка з кватэры
Прыносіў нейкія паперы).
Алесь Марціна прыплятае
І ўсё шукае ды шукае,
І не знаходзіць сваю страту.
З гуменца бацька шусь у хату!
І, не гаворачы нічога,
Рвануўся раптам да малога!
Аж задрыжэў. І ў момант вока
Ў гары матнуўся пас высока
І ў тую-ж самую хвіліну
Агнём апёк Алесю сьпіну.
Алесь заенчыў праразьліва,
Упаў і зноў схапіўся жыва,
А дзеці ў плач, у енк, у сьлёзы,
І ўсе рассыпаліс, як козы;
А бацька, страшны, поўны злосьці,
Алеся лупіць бязь літосьці;
І маці рады даць ня можа —
Так моцна бацька абурыўся.
Даў Бог, Ксавэры налучыўся.
— Пакінь Міхал! пакінь нябожа!
Апямятайся! ці так можна?
Насьмерць заб'еш неасьцярожна! —
Прыбег і дзядзька на падмогу,
Насілу вырвалі нябогу.
А бацька сек, пытаў скрозь гнеў:
— Куды «начаткі», гад, задзеў? —
Алесь бяз вопраткі і босы
Бяжыць у сьнег, праставалосы,
За хлеў ён чэша безаглядкі:
— А во яны! а во «начаткі»! —
І мушу я адно зазначыць,
Няхай тут праўду кажны ўбачыць,
Што гэта прыкрае здарэньне
Пайшло яму на паляпшэньне.

(Далей будзе)

